

Разьдзел II.

1. Што такое тэнч (радуга) і калі яна бывае?

2. Чым адрозьніваецца жаба ад лягушкі?

3. Што такое арха?

4. Чаму бывае зацьменьне сонца і месяца?

5. Які лес называюць дубровай?

6. Колькі мільёнаў насельніцтва ў Савецкай Беларусі?

7. Ад чаго бывае вецер?

8. Якая розьніца між стальлю і жалезам?

9. Калі скончылася прыгоннае права?

10. Якая птушка не лятае?

11. Адкуль пашла назва „Спартак"?

12. У якім годзе ўтварылася Парыская Комуна і колькі яна існавала?

13. Адкуль здабываецца соль?

14. Чаму жыта сеюць увосень, а не вясной?

15. Калі поле зябляць, а калі аруць?

16. У якім горадзе маецца адзіная ў СССР фабрыка па вырабу акуляраў?

17. Якая розьніца між форпостам і атрадам?

18. У якой дзяржаве і дзе знаходзіцца востраў „Новая Зямля"?

19. Што такое вялікая мядзьведзіца?

20. З чаго робяць цукар?

**Правіла гульні.**

Правільны адказ на пытаньне дае 2 ачкі.

Няправільны адказ або адсутнасьць гэтага нічога не дае.

Той выйграе, хто атрымлівае большы лік ачкоў.

Адказы павінны расцэньвацца па зьместу іх, а не па форме. Выказаны адказ мяняць нельга. Думаць над адказам можна 1-2 хвіліны.

У „нашу віктарыну" можна гуляць:

1. Аднаму; тады гулец сам сабе лічыць ачкі.

2. Удваіх; адзін пытае, другі адказвае.

3. Зьвяном; адзін чытае пытаньні, а ўсе іншыя пішуць у сябе на паперках адказы.

## Адказы на І-ы разьдзел.

1. Улетку 1922 г.

2. М. Галадзед.

3. Адно—Міцкевіч; Гушча і Колас ня прозьвішчы, а аўтарскія псэўдонімы.

4. Дзень вызваленьня ад палякаў ў 1920 г.

5. Тая, што пры трохпольнай сыстэме вядзеньня гаспадаркі ўся зямля разьбіваецца на 3 вучасткі—пад ярыну, жыта і папар (звычайна засяецца ярыной), а пры шматпольнай—на больш, адпаведна вызначанага ліку (5, 6, 7) вучасткаў.

6. Гэта залежыць ад халоднага клімату: электрычнасьць зімой слаба разраджаецца.

7. Замёрзлыя кроплі вады.

8. Гракі.

9. Матылёк-падзёнка.

10. Колібра.

11. Ніводнага, бо ні апавяданьняў, ні раманаў Я. Купала ня піша.

12. Тры пакаленьні: КП(б), КСМ і піон.

13. Месца, дзе ваданосны пласт зямлі выходзіць на паверхню.

14. Ля камінку (верш Я. Коласа).

15. Якія кормяцца мясам другіх зьвяроў.

16. Аднолькава холадна.

17. 8 акруг.

18. У 1870 г.

19. Лысая гара (на поўнач ад Менску).

20. М. Адзінец.

**Чытачы! Шлеце свае запытаньні (з адказамі) ў „Нашу Віктарыну".**

Рэдколегія: АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.*

**Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!**




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | | |
|---|---|---|
| На 1 месяц | . . . . — | р. 20 к. |
| „ 3 „ | . . . . — | р. 60 к. |
| „ 6 „ | . . . . | 1 р. 20 к. |

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 5** **САКАВІК** **1928 г.**

**МАКСІМ ГОРКІ.**



# МАКСІМ ГОРКІ

Нарыс **І. Самковіча.**

I.

Далёка-далёка ад нас ёсьць прыгожая краіна. Сонейка там сьвеціць ясна, птушачкі сьпяваюць прыгожа. Круглы год зелена. Неба блакітнае. Паветра чыстае і празрыстае. Круглы год можна бегаць босым, і паліто не патрэбна. А купацца-ж як там добра! Ды яшчэ дзе—у моры! Мора, бязьмежна шырокае мора, з усіх бакоў апавівае гэту краіну. Вада ў моры цёплая, прыемная.

У гэтай краіне і гарады ёсьць нейкія цудоўныя. Па вуліцах ня ходзяць, а езьдзяць у чаўнох... Ня вуліцы, а рэкі.

У гарадох, прыгожых і вялікіх, ёсьць фабрыкі і заводы. На фабрыках і заводах, як і ў нас, працуюць тысячы рабочых. Але толькі не на сябе працуюць рабочыя ў гэтай краіне... Стогнуць яны пад ярмом капіталу, пад бізуном капіталістага, стогнуць і з надзеяй на хуткае вызваленьне пазіраюць на ўсход, на нашу краіну Саветаў.

Хто-ж гэта катуе рабочых у гэтай краіне?

Хто з піонэраў ня знае такіх вядомых катаў, як *папа рымскі* і *Мусаліні*...

Гэта яны паганяць гэтую цудоўную краіну, дзе так усё прыгожа, дзе ёсьць такія вялікія гарады, як Рым, Нэапаль, Вэнэца, Гэнуя, пабудаваныя рукамі працоўных, дзе ёсьць гнеўны вулькан Вэзуві, дзе яшчэ дагэтуль стогнуць пад ярмом капіталу працоўныя, краіну, якая завецца *Італіяй.*

На моры, якое амывае сваімі нежнымі хвалямі гэту краіну, ёсьць невялічкая выспа. Завецца яна Капры. Прыгожая, цудоўная выспа, як і сама краіна. Высока ўзьнімаецца яна сярод прыгожага мора, якое ласкае яго сваімі хвалямі. Нежнагарачае сонейка агравае гэтую выспу сваімі праменьнямі.

Дык вось на гэтай высьпе часта можна бачыць чалавека гадоў пад 60, з выгляду падобнага на рабочага. Сядзіць ён на беразе цудоўна-прыгожага мора, любуецца яго бязьмежна-шырокімі прасторамі, любуецца белымі чайкамі, якія купаюцца ў сініх хвалях мора, чыгікаючы свае песьні. Сядзіць ён на ўзьбярэжнай скале і накіроўвае свае задуменна-глыбокія вочы ў той бок, дзе краіна Саветаў, дзе рабочыя і сяляне будуюць сваімі ўласнымі рукамі новае жыцьцё. Твар гэтага чалавека, з глыбокімі сьлядамі цяжкага жыцьця ў мінулым, пры ўспамінах аб краіне Саветаў пакрываецца прыгожай усьмешкай, і тады пастаянны смутак яго твару зьнікае, як яго і ня было...

Хто-ж гэта такі? Адкуль і як папаў ён сюды? Чаму ён так моцна любіць нашу краіну Саветаў? Чаму і краіна Саветаў любіць гэтага чалавека і ганарыцца ім?

II.

Роўна 60 год таму назад *) у Н.-Ноўгарадзе ў сям'і рабочага абойшчыка Максіма Пяшкова і яго жонкі Барбары радзіўся хлопчык. Яго хрысьцілі ў Барбарынскай царкве. Поп, заткнуўшы хлопчыку сваёй лапішчай усе дзірачкі на твары, тройчы чабултыхнуў яго ў ваду. Хлопчык забрыкаў сваімі чырвонымі ножкамі і моцна закрычаў, як-бы протэстуючы супроць таго гвалту, які рабіў над ім поп. Потым сьціх. Хлопчыка назвалі Аляксеем.

Так звычайна пачалося жыцьцё гэтага чалавека.

Хлопчык рос, абкружаны ласкамі бацькоў. Але нядоўга жыў так хлопчык. Адно гора за другім, як чорныя хмары, насоўваліся на хлопчыка. Калі яму было пяць год, памёр бацька. Хлопчык плакаў і плакаў моцна, хоць ня мог яшчэ зразумець гора. Плакаў, бо яго бацька, заўсёды такі добры і вясёлы, цяпер ляжыць нярухома, не сьмяецца і ня гладзіць па галоўцы яго, Алёшку. Дрэнныя дзядзькі забілі добрага татку Алёшкі ў нейкую даўгую скрынку і назаўсёды забралі ад хлопчыка...

Праз нейкі час памерла і матка. Астаўся Алёшка круглаю сіратою.

---

*) Радзіўся 16 сакавіка 1868 г.

Пачаліся дні горкага жыцьця, доўгія, беспрасьветныя дні, бяз ласкі, бяз радасьці...

Алёшка жыў у дзеда, які трымаў фарбавальную майстэрню. Дзед быў вельмі дрэнны, скупы, злы. Яго ўсе празвалі Кашчэем, а сапраўднае яго прозьвішча было Кашырын. Не шкадаваў дзед Алёшку. Часта біў яго, біў да паўсьмерці. Цыганок, таварыш Алёшкі, даваў яму параду, як трэба сябе трымаць у той час, калі яго сячэ дзед.

— Калі цябе ў другі раз сячы будуць, дык ты глядзі, ня сьціскайся, ня сьціскай цела, чуеш? Удвая горай баліць, калі цела сьцісьнеш, а ты распусьці яго вольна, каб яно мяккім было,—кісялём ляжы! І не надувайся, дыхай вольна, крычы „благім матам“—ты гэта памятай. Гэта добра!

Вось як вучыў цыганок Алёшку, каб яму было лягчэй пераносіць боль. Горка жылося Алёшку ў дзеда. Адзінай уцехай у гэтым жыцьці была толькі бабка. Часта яна расказвала Алёшку прыгожыя казкі, паданьні, сьпявала прыгожыя песьні. Любіў Алёшка сваю бабку і пад яе казкі забываў на некаторы час пра сваё гора.

III.

Алёшку ўжо 10 год. Горкімі былі гэтыя дзесяць год. Такое-ж самае горкае жыцьцё чакала яго і ў далейшым. Дзед выгнаў яго з хаты ў людзі, на свой хлеб. Цяжка яму прыходзілася здабываць сабе гэты хлеб, пацягнуліся доўгія гады горкага жыцьця, так горка было, што Алёшка ня меў ужо сілы больш цярпець, і хацеў скончыць сваё жыцьцё самагубствам...

Кім толькі ён ня быў! Проста дзіву даешся, як гэта ён мог вытрываць.

Служыў у абуўным магазыне ў якасьці хлопчыка; быў памоцнікам кухара на параходзе; служыў у булачнай; хадзіў ад двара да двара і калоў дровы; быў пагрузчыкам, хлебапёкам; сьпяваў у царкоўным хоры; гандляваў яблыкамі, семячкамі, птушкамі, абразамі; быў пісьмаводам; служыў старажам на чыгунцы; працаваў у якасьці рабочага ў чыгуначных майстэрнях і працаваў у малярні...

Вось той горкі шлях, які праходзіў Алёшка ў сваім жыцьці, спачатку як хлопчык, а потым як і дарослы Аляксей Пяшкоў.

А колькі-ж ён вынес зьдзекаў! Часта як білі, і білі моцна, не шкадуючы. Асабліва моцна пабіў яго раз рысавальшчык, у якога служыў Алёшка, так пабіў, што ўжо было мала надзеі на ратунак. А за што?

Гаспадар загадаў Алёшку паставіць самавар. Забіты, абтуканы Алёшка, сьпяшаючыся, забыўся наліць у самавар вады. Распаліў вугольле. Па хаце пайшоў горкі смурод. Ну, вядома, што далей было... труба ў самавары разварылася... Гаспадар, як драпежнік, накінуўся на Алёшку... Трэба было везьці Алёшку ў бальніцу, каб адратаваць пасьля гэтай „лазьні“... Чуць адратавалі.

Горкае было жыцьцё. Аніводнага сьветлага ўспаміну. Толькі адзін параходны кухар Смурога, у якога Алёшка быў за кухаронка. быў не такі, як усе людзі. Толькі аб адным ім захаваліся ў Алёшкі добрыя ўспаміны. Кухар Смурога першы зацікавіў Алёшку кніжкамі і з яго лёгкай рукі Алёшка палюбіў кнігі, палюбіў моцна, чытаючы іх узасос, без усялякага разбору.

Горкімі былі дзіцячыя гады Алёшкі. Такімі-ж горкімі былі і гады юнацтва. Ня лепей жылося і тады, калі ён стаў дарослым Аляксеем Пяшковым.

IV.

Як-жа Алёшка стаў Максімам Горкім?

Гэта было 35 год таму назад. Па вуліцах Тыфлісу ішоў у дрэнным паліто нейкі мужчына, па выгляду зусім падобны на рабочага, гадоў пад дваццаць пяць. У руках—скрутачак паперы. Вось дайшоў ён да рэдакцыі газэты „Каўказ“. З вялікім хваляваньнем увайшоў ён у памяшканьне рэдакцыі... З такім-жа хваляваньнем сачыў за рэдактарам, вочы якога хутка бегалі па радкох рукапісу... Чакаў прыгавору...

Ды хто з нашых маладых дапішчыкаў і песьняроў не перажываў гэтага пачуцьця, прыносячы першы раз свае рукапісы ў рэдакцыю?

Рукапіс прачытаны. Сухі, з сівай бародкай рэдактар кінуў праз залатыя акуляры уважлівы погляд на мешкаватую фігуру...

— Та-ак...—працадзіў ён.—Аднак, тут няма подпісу. Трэба падпісаць. Як падпісаць? Хто вы?

Аўтар захваляваўся... Потым, махнуўшы рукой, з цьвёрдасьцю прамовіў:

— Падпішэце так: Горкі... Максім Горкі...

Як пасавала гэтае новае прозьвішча, якое выбраў сабе Аляксей Пяшкоў, з усім яго жыцьцём!

Так падпісаў рэдактар першае апавяданьне быўшага Алёшкі, цяпер грузчыка станцыі Тыфліс, Аляксея Пяшкова. Апавяданьне гэта было „*Макар Чудра*“. Прыгожае апавяданьне. Максім Горкі заклікаў у ім працоўных на прасторы, к волі, сонцу, к сьвету, к гэроізму...

12 верасьня 1892 году гэта апавяданьне было надрукована ў газэце „Каўказ“, палажыўшы сабой пачатак славутай шматгадовай пісьменьніцкай дзейнасьці быўшага Алёшкі, якая вось ужо цягнецца без перапынку роўна 35 год!

З лёгкай рукі „Макара Чудры“ на працягу 35 год ліюцца прыгожыя творы з-пад пяра Максіма Горкага. Напісана ім ужо звыш 30 тамоў твораў, звыш дзесяцёх тысяч старонак!

Не пасьпявалі творы друкавацца, як яны адразу-ж і раскупляліся чытачамі. Некаторыя яго творы на працягу 15 дзён разыходзіліся ў ліку дваццацёх пяцёх тысяч, а невялічкія апавяданьні—у ліку ста тысяч экзэмпляраў...

Хто-ж купляў гэтыя творы?

Іх куплялі ўсе прыгнечаныя, усе нездаволеныя, усе тыя, хто марыў аб лепшых днёх жыцьця... Такіх было многа, міліёны... Вось чаму і творы любімага пісьменьніка купляліся нарасхват. Яны будзілі працоўных, заклікалі іх на барацьбу, на змаганьне, асабліва тыя яго творы, у якіх дзеючымі гэроямі зьяўляюцца рабочыя масы. Ня толькі нашы рабочыя чыталі яго творы. Скора гэтыя творы пранікні і за межы. Цяпер няма аніводнай культурнай краіны, дзе-б ня было твораў Максіма Горкага. Адзін толькі роман „Маці“ ў Нямеччыне і Амэрыцы разышоўся ў міліёнах экзэмпляраў...

Так будзіў і будзіць быўшы Алёшка сваімі прыгожымі рэволюцыйнымі творамі міліённыя масы працоўных сьвету. Любімыя яго гэрої—рабочыя. Ён любіць рабочага і верыць у моц рабочых мас, рабочага колектыву. Толькі гэты колектыў можа ўтварыць сьветлае будучае, дзе чалавеку настане людзкае жыцьцё.

V.

Ня толькі Максім Горкі славуты пісьменьнік, якога ведае кожны рабочы ў кожнай культурнай краіне. Ён і грамадзкі дзеяч, рэволюцыянэр. З 1901 году ён быў сябрам Р. С.-Д Р. П. Прымаў актыўны ўдзел у рэволюцыі 1905 году. Царскія жандары вельмі часта наведвалі кватэру Максіма Горкага, не адзін раз трэсьлі яе. Пакаштаваў ён хлеба і ў Петрапаўлаўскай цытадэлі, куды цар саджаў усіх нашых лепшых рэволюцыянэраў. За што-ж сядзеў Максім Горкі?

За тое, што ён будзіў працоўныя масы, заклікаў іх на барацьбу, не шкадуючы ні сродкаў, ні здароўя, за тое, што ён абзываў і цара і яго жандараў „прахвостамі“. У асобе Максіма Горкага цар і яго паслугачы бачылі грозную сілу, якая не давала ім спакойна спаць. Яны і цікавую мянюшку далі Максіму Горкаму—„буравесьнік“. І не памыліліся. Горкі стаў сапраўдным буравесьнікам рэволюцыйных бур.

Максім Горкі быў ня толькі буравесьнікам гэтых бур, а і актыўным удзельнікам іх. Ён быў сьведкай, як тая сіла, сіла пролетарыяту, у якую ён моцна верыў, будуе новае соцыялістычнае жыцьцё ў краіне Саветаў. Ён і сам у першыя дні памагаў працоўным. Разам з Уладзімірам Ільлічом прымаў удзел у зьездах Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Любіў Максіма Горкага і Уладзімір Ільліч, лічыў яго сваім лепшым другам і другам працоўных.

Але хвароба не дазваляла Максіму Горкаму працаваць. Горкае жыцьцё мінулага далося знаць. А хвароба цяжкая сухоты. Трэба лячыцца. І вось, у 1922 г. Максім Горкі едзе ў Італію, на выспу Капры для лячэньня, дзе ён жыве і цяпер. Хоць ён жывець і далёка, але думкі яго тут, у нас, разам з намі. Моцна ён любіць краіну Саветаў, дзе працоўныя сваімі ўласнымі рукамі будуюць новае жыцьцё. Хоча паглядзець, што ўжо зроблена ў нас. Прыедзе да нас увесну. Працоўныя Саюзу чакаюць свайго вялікага госьця, чакаюць, каб адсьвяткаваць два вялікіх яго юбілеі: 35 год літаратурнай працы і 60 год ад нараджэньня.




*Багата рознага народу жыве ў нашым вялікім Саюзе. Жыцьцё кожнага народу мае свае асаблівасьці, якія залежаць і ад тэрыторыі і ад разьвіцьця культуры.*

*У гэтым апавяд. яскрава перадаюцца малюнкі з жыцьця і быту лапароў, якія жывуць далёка-далёка на поўначы, сярод вечнага лёду на малых вастравох.*

Апавяданьне **А. Кажэўнікава.** Малюнкі **М. Абрамава.**

# Лапаронак Алеса

### На Лоў-возеры.

У мінулую восень лапар Якаў прадаў сваю хату і цяпер у яго ўсяго толькі адна вежа *), накрытая драўлянай карою і хваёвымі лапкамі. Цяпер прадзімае сівер, мочыць дождж, уначы навакол вежы выюць ваўкі, і даводзіцца Якаву браць у вежу апошнюю пару сваіх аленяй.

Лажацца яны поруч з сям'ёй і дрыжаць усе разам: сям'я—ад холаду, а алені ад страху. Лайка з сабачкамі таксама ўпаўзае ў вежу і лажыцца ля парога.

Голад у лапара Якава. Нічога няма, апрача старой гнілой рыбы-трэскі. Сам ён ня выходзіць з вежы, ляжыць пад маліцай **) і стогне. У яго злосная цынга, якая пакрышыла Якаву зубы, на сінія раны пабіла ўсё цела. Жонка Якава, старая лапарка, таксама хворая на цынгу і з сілай падтрымлівае агонь у вежы. Сын падростак Алеса і дачка, зусім яшчэ маленькая, толькі і выратоўваюцца тым, што Алеса кожны дзень з блясной *) ходзіць на Лоў-возера і адтуль прыносіць трошкі сьвежай рыбы. У яго даўно ўжо зьявілася слабасьць; ён цяпер лянуецца нават і з вежы выходзіць, ён-бы ахвотна ляжаў пад маліцаю і думаў, што ў яго тысячныя чароды аленяў і на рацэ Туломе свае сямужныя платы **).

Ведае Якаў, што к сыну, крадучыся, падыходзіць цынга, і кожны дзень кажа:

— Ідзі на Лоў-возера; дзяўчына ня можа есьці трэску, памрэ...

Сын выходзіць, калі загараецца ранняя зорка. Сонца ўжо з месяц як пайшло на захад і ўсё яшчэ не вярнулася. Яно пасылае адну толькі зорку, якая пагарыць гадзіны са дзьве і хаваецца.

У гэты час Алеса і ловіць рыбу. Ён садзіцца над палонкай і апускае блясну.

*) Вежа—летні шалаш (будка) лапара.
**) Маліца—зімовае адзеньне з шкуры аленя.

*) Блясна—мэталёвая рыбка замест жыўца з адным або некалькімі кручкамі для лоўлі шчупакоў і другой рыбы.
**) Сямужныя платы—платы для лоўлі рыбы—сямгі

Доўга даводзіцца чакаць, пакуль тузяне рыба, і маленькі лапар глядзіць у гэты час на зорку. Ён думае аб тым, што кожную зіму больш за месяц бывае адна ноч, а замест дня—раніца і вечар, і не разбярэшся, дзе канчаецца раніца і пачынаецца вечар: увесь час відаць на небе маленькія зоркі і белы месяц.

### Сонца.

Ня прышло яшчэ сонца, а лапар Якаў памёр. Алеса завёз бацьку ў тундру і закідаў каменьнямі.

На падлогу пад маліцу лягла матка, і лапаронак сам распальваў агонь і грэў чыгун з вадой, яму ўсё больш хацелася легчы з маткай поруч, ён ня вытрымаў і лёг. Не прашла ноч—і вярнулася сонца, паміж раніцай і вечарам зьявіўся кароткі маленькі дзень.

Лайка першая пачула, што вярнулася сонца, яна выбегла з вежы і радасна забрахала.

За ёй выбегла сястрычка і закрычала:

— Сонца, сонца!

Лапаронак устаў і вышаў з вежы.

Далёка ў тундры там, дзе зямля і неба зьліваюцца разам, плавала вялікае чырвонае сонца. У тым месцы і неба і тундра былі чырвонымі, быццам іх аблілі крывёю. Ля вежаў брахалі сабакі, народ выбег з хат і шумеў.

Алені стаялі, падняўшы рогі мордамі к сонцу. Яны не забаўляліся і ня шукалі ягель *). Белая тундра зіяла, быццам па ёй расьсявалі блясны, а месяц і зоркі патухлі. Сонца пастаяла на адным месцы і пачало тапіцца. Спачатку схаваўся невялікі край, пасьля палова. Лапаронак успомніў, што ў вежы ляжыць яго матка. Ён разбудзіў яе і памог вылезьці. Яна расплюшчыла вочы і бачыла, як патануў апошні гарбок сонца. Матка не вярнулася ў вежу, пакуль не патухла ўсё неба, а яно яшчэ доўга было чырвоным, і тундра доўга зіяла аганькамі.

Сонца прагнала ад маткі цынгу, а ад лапаронка—сон. Ён ужо не лажыўся пад маліцу, а пры першым зіяньні зоркі ішоў к палонцы, апушчаў блясну і чакаў сонца. Матка шкадавала:

— Калі-б прышло яно раней, жывымбы астаўся бацька.

*) Ягель—мох, якім харчуюцца алені.

На Лоў-возеры яшчэ не патрэскаўся лёд, а на тундры ляжаў сьнег, калі матка сказала Алесу:

— Насі болей сьвежай рыбы, трэску зьелі.

Сядзеў лапаронак з блясной і раніцу, і дзень, і вечар, сядзеў часта і ўначы пры месяцы, а рыбы ўсё не хапала. Матка ела шмат, пасьля лайка зьела ўсе галовы ад трэскі,—прышлося і ёй даваць сьвежую рыбу.

У яе падрасталі сабачаняткі, трэба было карміць і іх.

— Насі болей рыбы, а то прыдзе цынга,—яшчэ раз напомніла матка.

— Не магу болей, болей не дае Лоўвозера.

— Прыдзецца рэзаць алешкаў.

— Алешкаў? Я лепш вазьму сабачанят і паб'ю іх аб камень.

— Тады ўцячэ лайка.

— Няхай уцякае.

— Ня хочаш хадзіць у тундру. Ад бацькі засталася стрэльба і порах.

— Нічога не адказаў Алеса, ён хацеў быць сапраўдным лапаром,—разводзіць аленяй і ганяцца за зьвярамі. Яму нельга бяз лайкі, але таксама і без алешкаў нельга.

### Сярод птушак.

Тундра пачынала шумець; струмені вады скідалі лёд. Высунуліся з-пад сьнегу чорныя валуны; па схілах пачала паказвацца трава і зелянець мох. На Лоў-возеры зьявіўся палын.

У адну ноч прыляцелі з акіяну чайкі, спусьціліся на палыны. За імі прыляцелі цяжкія і непаваротлівыя гагары. Алеса чакаў лебедзяў, цяпер ён выяжджаў на Лоў-возера ў маленькім драўляным чаўне; чайкі кружыліся над ім, плавалі навакол чаўна і шырокімі сваімі дзюбамі хапалі рыбу.

Прыляцелі і лебедзі. Да іх зьяўленьня тундра была вольнай ужо ад сьнегу, лагчынкі былі пад вадой, горы зелянелі, распускаліся першыя паўночныя кветкі. Маленькія, на кароткіх сьцяблох і стракатыя, яны нагадвалі пырскі самацьветных каменьняў. На каравых бярозках і асінках прабіваўся пакручасты жаўтаваты ліст.

Сонца ўсё даўжэй стаяла над тундрам і вазёрамі. Увечары яно не хацела захо-

дзіць і, лянуючыся, кацілася ўніз, да зямлі. Алеса ведаў, што прыдзе такі дзень, калі сонца забудзецца пакінуць неба і застанецца начаваць над зямлёй.

Ї дзень гэты прышоў.

Сонца скацілася да самай тундры, пачырванела, скінула свае прыгожыя ўборы-праменьні і так засталося нанач. Прапала ноч, зьніклі і раніца, і вечар: цяпер ім няма чаго рабіць было. Астаўся адзін толькі дзень. А з тундры і з вазёр зьнікла цішыня. Стаяў бесьперапынны птушыны гоман і крыкі.

### Забіў.

Блясна не магла пракарміць усю вялікую сям'ю (у якой алені і лайкі з сабачанятамі). Алеса ўспомніў пра бацькаву стрэльбу. Узяў яе і выехаў у возера. Човен абхінулі чароды птушак. Крыльлі птушак, якія хмарамі кружыліся тут, засланялі сонца. Лапаронак страляў у іх шмат разоў і бачыў, як яны падалі ўніз галавою. Забітых было цяжка знайсьці сярод жывых, і ён вярнуўся дамоў усяго толькі з параю гагар, але гэтай пары гагар хапіла пад'есьці і матцы, і сястры, і лайцы з сабачанятамі.

Лапаронак схаваў блясну, цяпер яго карміла стрэльба.

Навошта забіваць аленяў, калі навокала гэтулькі птушак, што іх не пералічыць усяму лапарскаму народу. Птушкі не заўважваюць забітых, ня чуюць стрэлаў, паранейшаму даверліва цісънуцца да чаўна. Ён можа захоўваць порах і забіваць іх калом па галаве. Човен яго наплыў на чараду лебедзяў. Лапаронак ніколі не забіваў гэту прыгожую птушку. Яму яшчэ бацька гаварыў:

— Няможна... Забі, душа спакою ня знойдзе...

Але на гэты раз лебедзяў было гэтулькі шмат, што ён ня мог праплыць к гагарам; нельга·ж было ехаць з пустым чоўнам, трэба-ж было хоць раз стрэліць. Ї ён



*Ї ён падняў стрэльбу і стрэліў лебедзю ў грудзі.*

стрэліў. Над чоўнам узьняўся вялікі лебедзь, увесь белы, толькі навокала шыі ў яго была чорная палоска, быццам адзеты чорны пярсьцёнак. З яго гострых крыльляў пырснула вада, і ад узмахаў дыхнуў вецер. Лапаронак узьняў галаву, каб прасачыць, як ляціць лебедзь. Проста перад ім былі шырокія дужыя грудзі птушкі. Ї ён ня памятае, як падняў стрэльбу і стрэліў лебедзю ў грудзі. Адразу павялі разгорнутыя крыльлі, галава схілілася ўніз, як колас на саламяным сьцябле, і лебедзь упаў у човен.

Проста ў човен, ня трэба шукаць і лавіць.

Стрэл быў добры, і лапаронак мог ехаць дамоў, але як выехаць з лебядзінай чарады? Узяў ён лапатку, каб разгрэбці ёю дарогу, але не пасьпеў і ўзьняць яе, як уся чарада птушак з крыкам узьнялася над возерам і асела на ўзьбярэжжы ў куп'і, дзе былі яе гнёзды.

### Пастух Дзержык.

Лапаронак доўга вандраваў па лагчынках і балотах. Два разы ляжаў ён на густым і мяккім ягелі, узьнімаўся на гару, бачыў усё такую ж тундру і вялікія стадкі іжэмскіх аленяў. Пастух Дзержык праехаў ля лапаронка.

Пастух бадай ніколі ня спаў і не адпачываў. Стадак яго заўсёды расьцягваўся на некалькі вёрст ва ўсе бакі. Калі-б ён заснуў, за адну гадзіну стадак разыйдзецца так, што не зьбярэш яго за дзень, а ваўку трэба ўсяго мінута, каб зарэзаць самага большага быка *). Але пастух навучыўся драмаць на нартах. Едзе ён, павадыр-алень ведае сваю справу і бяз кіраваньня абыходзіць стадак навакол. Пастух дрэмле; у сьне, як і ня сплючы, ён бачыць тундру, яе зялёныя імшарнікі.

Пастух ехаў і сьпяваў песьню, што ў яго добра ідуць справы: яшчэ ні воўк, ні мядзьведзь не задушылі ніводнага аленя. Калі ўдасца, дык увосень у яго будзе свой маленькі стадак. Гаспадар па ўмове дасьць яму пяць аленяў, штукі тры, а то і пяць ён прыручыць з дзікіх. Аб усім гэтым Дзержык сьпяваў моцна, каб чула ўся тундра.

„Пяць аленяў я ўкраду з чужых стадкаў“, — пра гэта Дзержык сьпяваў ціха.

Як зачараваны слухаў лапаронак песьню пастуха.

Дык вось як можна стаць аленяводам і сваімі стадкамі запоўніць усю тундру. Наняцца ў пастухі, прыручыць дзікіх аленяў і накрасьці з чужых стадкаў. І Алеса проста з тундры пашоў у пагост к багатаму іжэмцу Насыру.

— Вазьмі мяне за пастуха,—сказаў лапаронак.

— У воўка страляў, у мядзьведзя страляў?

— Не, у лебедзя страляў.

— Лебедзь ня душыць аленяў, воўк душыць і мядзьведзь, у іх навучыся страляць.

— У мяне матка і сястра, я не магу пайсьці ў тундру шукаць мядзьведзя.

— Добра, памагай майму пастуху Дзержыку.

— Колькі аленяў ты дасі мне за гэта?— пытае Алеса.

А Насыр сьмяецца.

— Сто аленяў.

Ня верыць лапаронак Алеса.

— Добра. Навучышся біць мядзьведзя і воўка, будзеш мець пяць быкоў. Скажы пастуху Дзержыку, каб даў табе нарты, аленяў бяры ў стадку. Лайка ёсьць?

— Сям'я цэлая. Дзержык навучыць мяне біць мядзьведзя?

— Мядзьведзя і воўка. Дзержык—вялікі паляўнічы.

Лапаронак вярнуўся ў вежу.

Там ён сказаў матцы:

— Я пайду за пастуха к Насыру.

— Хто будзе лавіць рыбу?

— Ніхто.

— Чаго-ж ты пойдзеш к Насыру? Хто будзе карміць нас?

— Зарэжам быка.

— Апошняга быка?

— У нас будзе шмат быкоў.

Лапаронак нагастрыў нож, паклікаў з тундры быка і зарэзаў яго.

Важэнка*) з маленькім пыжыкам**) панюхала кроў, застагнала і пабегла ў тундру.

Лапаронак узяў стрэльбу, лайку з усёй яе ўжо падросшай сям'ёй і пашоў у тундру пасьвіць стадкі іжэмца Насыра.

Кожны дзень новая пара быкоў вазіла яго па балотах і імшарніках. Ён навучыўся драмаць на нартах і ў сьне бачыць тундру, седзячы на нартах, чуць браханьне сабак, якія пачулі воўка.

Калі ён быў далёка ад пастуха Дзержыка, дык сьпяваў песьню аб тым, што хутка навучыцца біць воўка і мядзьведзя. Першага мядзьведзя ён паложыць на нарты, завязе к Насыру і скажа:

— Вазьмі мядзьведзя, а мяне зрабі галоўным пастухом і дай мне пяць быкоў.

*) Бык—алень-самец.

*) Важэнка—алень-самка.
**) Пыжык—алень-цялё.

— У мяне ёсьць пастух Дзержык, шукай месца ў другім стадку,—адкажа Насыр.

— Тады я завяду Дзержыка ў тундру і скажу яму—ідзі!

Калі Дзержык ня пойдзе, дык у нас будзе бойка. Я яго заб'ю, як мядзьведзя, а не, дык праганю, як воўка, стану пастухом і пачну сьпяваць песьню, якую сьпявае Дзержык.

### Воўк.

Сонцу надаела гасьцяваць у тундры, і яно пачало скачвацца на захад, у Фінляндыю. У тундры зноў прышлі раніца і вечар, прышла ноч з вялікім ярнім месяцам і з зоркамі. Уначы часта лапаронку хацелася легчы ў ягель і накрыцца маліцай, каб ня чуць сабак, а сабакі ўначы брахалі бесьперапынку: ваўкі ўначы сьмялей падыходзілі да стадка. Ехаў раз лапаронак і сьпяваў песьню. Трэба было яму прыгнаць к стадку адну важэнку, якая зайшла далёка са сваім маленькім цяляткам. Навакол тарчалі чорныя валуны, і лапаронак, блытаючыся сярод іх, ніяк ня мог дагнаць важэнку. Яна шчыпала ягель, цялё гуляла каля яе. Лапаронак пачаў ехаць нацянькі; праяжджаючы ля аднаго валуна, яго алені кінуліся ў бок, напіраючы адзін на другога і блытаючыся рагамі. А з-за каменя выскачыў воўк і куляй кінуўся к важэнцы. Лапаронак кінуў нарты і пабег за воўкам. Важэнка адбегла ў бок, а цялё з перапуду прыціснулася да каменя і стаяла. Матка таксама спынілася: яна парашыла прыняць воўка на рогі. Воўк на момант спыніўся, задумаўся, ён ня ведаў, з каго пачаць: задушыць спачатку старога ці маладога аленя.

Калі-б прапусьціў лапаронак адзін момант, загінулі-б і матка і цялё, але ён прыцэліўся і стрэліў. Куля злавіла воўка, калі ён скочыў і ляцеў у паветры, куля прабіла яму патыліцу, і ён упаў да ног важэнкі, якая ў той-жа час ачнулася і борзда памчалася к стадку. Цялё пабегла за ёй.

Лапаронак злавіў сваіх аленяй, прывязаў воўка к нартам, а калі ўзышла зара, завёз яго к Насыру.

— Вось вазьмі, я забіў.



*З-за каменя выскачыў воўк і куляй кінуўся к важэнцы.*

— Маладзец, малец! Да вечнай ночы ты атрымаеш пару быкоў.

### Пурга і зьвер.

Выпаў на тундру сьнег, прышла вечная ноч. Стадкі Насыра перабраліся бліжэй к халоднаму акіяну.

Лапаронак Алеса забіў некалькі штук ваўкоў і шкуры іх вазіў з сабой на нартах, каб вясной прадаць купцу.

Дзержык і Алеса сядзелі ў вежы ля агню; у чыгуне варылася аленіна, пах ад яе напоўніў усю вежу.

— Будзе вялікая пурга, галодны зьвер пойдзе за аленем. Трэба сказаць Насыру,—кажа Дзержык.

— Едзь к Насыру, я буду наглядаць за стадкам,—кажа Алеса.

— Не, ты паедзеш.

— Я заб'ю аднаго быка і завязу матцы. Насыр мне дакляраваў пару быкоў да ночы.

— Забі, Алеса. Насыр добры, нічога ня скажа.

Раніцай, калі сонца толькі паслала на зямлю свае праменьні, Алеса забіў вялікага быка і прывязаў да нартаў.

Запрог ён тройку лепшых быкоў і тройку прывязаў ззаду, узяў стрэльбу і адну лайку:

— Бывай здароў, Дзержык!

— Едзь здароў, Алеса!

Лапаронак узмахнуў рукой. Алені і нарты схаваліся ў сьнегавой завірусе, якую ўзьнялі ад бегу санкі і жывёлы.

Наперадзе белая прастора, ніводнай вежы, ніводнага аленя. Поўная цішыня, чуваць толькі фырканьне аленяў і стук ад капыт.

Алеса доўга ехаў. На паўдарозе к Лоўвозеру ён запрог другую тройку, змораных прывязаў, паехаў далей. Ззаду ад яго на небе выпаўзалі цёмныя, як жалеза, хмары. Адтуль ляцеў вялізны, моцны вецер. Алені беглі барждджэй. На астаноўках яны не капалі ягель, а з трывогай паглядалі на хмары, якія распаўзьліся па небе і засталучвалі зоркі.

З кароткімі астаноўкамі ехаў Алеса.

Насустрач бегла аднастайная адзінокая тундра. Павадыр бег упэўнена; ня гледзячы на змрок, ён абыходзіў кусты, небясьпечныя і крутыя скалы.

Алеса ня так добра ведае тундру, як пастух Дзержык, але і ён заўважыў, што алені занепакоіліся і пачынаюць сьпяшацца. Лайка падкурчыла хвост і прыціскаецца да нартаў.

„Няўжо зьвер прышоў?“—думае і аглядаецца Алеса.

Бяжыць тундра, бягуць цені кустоў і чорныя кусты, як цені. Бачыць лапаронак, што яшчэ хтосьці бяжыць сярод кустоў і зіхаціць вачыма.

Лапаронак яшчэ барждджэй паганяе аленяў.

Зьвер наганяе, нарты абкружаны з трох бакоў чорным ланцугом ваўкоў і бліскаючых ад голаду вачэй. Бачыць Алеса па аганькох, што ваўкі перастрайваюцца: наперад высылаюць самых дужых, самых борздаходных. Выцягваецца ланцуг, ён ужо вось-вось гатоў сьцягнуцца, але два крайніх алені нагінаюцца, і пярэднія ваўкі далёка адкінуты рагамі. Злосьць яшчэ больш агортвае ваўкоў, мацней ляскаюць яны зубамі. Алесу робіцца страшнавата, ён сядзіць на перадку нарт, у яго нагатове стрэльба, між ног дрыжыць лайка.

Зноў перабягаюць вагністыя вочы, другія сьмелякі прабуюць задушыць крайніх аленяў: яны, даганяючы, прыпадаюць к зямлі, выцягваюцца злоснай драпежнай істужкай з выскаленымі зубамі. Бачыць алень хітрасьць воўка і схіляе галаву. Ён нясе яе над самай зямлёй амаль дакранаючыся рагамі да сьнегу. Воўк і алень, два сьмяртэльныя ворагі, бягуць поруч. Воўк раптам падскаквае, выгібае шыю і морду, каб схапіць аленя за горла зьнізу, але алень б'е рагамі ў морду воўка і ён ляціць часта з разьбітай галавой, з выкалатымі вачыма, або з разарваным языком. Чуе Алеса нейкі другі шум,—гэта ня хрыпеньне аленяў і ня шастаньне сьнега пад нагамі воўчай чарады—гэта ідзе пурга і шуміць.

Халодны вецер наляцеў і ня ззаду і ня сьпераду, а зьверху і сыпнуў на нарты хмары колкага сьнегу. Адразу патухлі зоркі і месяц, шчыльна і густа абхінула лапаронка марозная імгла.

Алеса нават ня бачыў аленяў і ваўкоў; толькі ад таго, што нарты качаліся ў сьнежных калдобінах і горках, хісталіся, як човен, што тане ў густой багне, ён здагадваўся, што імчыцца з ранейшай хуткасьцю.

У шуме пургі ён чуў бразганьне зубоў і роў зьвера, і мацней ад гэтага сьціскаў стрэльбу.

**Аб чым сьпяваў Алеса.**

Алені прымчалі.

Лапаронак скачанелымі рукамі трымаў стрэльбу. Між ног яго ляжала перапалоханая лайка.

Алесу тут-жа на вуліцы пачалі адціраць сьнегам, пасьля ўнясьлі ў хату к Насыру.

Да ўсходу сонца пурга супакоілася.

Лапаронак Алеса прачнуўся і вышаў паглядзець аленяў.

Чацьвёра з іх здохла.

Павадыр быў жывы.

Ён ляжаў на сьнягу з крывавымі вачыма і гарачым языком лізаў халодны сьнег. З рота сачылася чырвоная пена, і яго худыя бакі калаціліся.

— Насыр, я вёз забітага быка і воўчыя скуры, дзе яны?



*Зьвер наганяе, нарты абкружаны...*

Скураў я ня бачыў, а бык у сьвірне, у яго аб'едзены зад.

— Дай мне другога быка, ты дакляраваў даць два...

— Ты забіў пяць маіх быкоў,—Насыр паказаў на няжывых аленяў.

— Іх забілі зьвер і пурга.

— Я табе ня дам другога быка.

Ты, пастух, змагайся са зьверам, а ён пасадзіў зьвера ў нарты і прывёз у Лоўвозера. Ідзі ў сваю вежу да маткі і хадзі ў палонку з блясной, лаві рыбу,—вось твая справа!

Запрог Насыр пару аленяў і завёз лапаронка Алесу да маткі ў вежу.

Паехаў к Дзержыку другі пастух, а Алеса ўзяў блясну і пашоў на возера лавіць рыбу.

Чакаў ён, калі пашавеліць блясну рыба і сьпяваў:

— Скажы, сонца, куды ісьці лапаронку Алесу, ты ўсюды ходзіш, скажы дзе лепш? Скажы, як разьвесьці свае стадкі і запоўніць усю тундру, так як іжэмец Насыр? Я забіў шмат ваўкоў і воўк забраў свае скуры.

Гэтак сьпяваў маленькі Алеса і чакаў вясну, а ў сьвірне ў іжэмца Насыра ляжалі воўчыя скуры, якія прывёз Алеса, чакалі таксама вясны і купца, які завязе іх у горад, дзе каменныя вежы і пурга ня гэткая злосная.

Сумна сьпяваў Алеса.

— Значыцца, не нажыць яму сваіх аленяў, не пабудаваць хату на пагосьце, ня выбрацца з старой і халоднай вежы, дзе мочыць дождж і халодзіць сівер.

— Прыдзе сонца, пойдзе ў тундры вада, пойдзе за ёй і маленькі Алеса.

Пойдзе ён на раку Тулому, дзе шмат сямгі, к Беламу мору, дзе плавае цюлень, пойдзе к халоднаму акіяну, дзе плаваюць лёд і караблі; будзе шукаць сваё шчасьце па ўсёй лопскай зямлі*), можа яно дзенебудзь і ёсьць.

*) Лопская зямля—Лапландзія.

**Чытайце ў чарговым нумары пачатак цікавага апавяданьня з жыцьця ваўкоў—„ШАКАЛ ЦІТО", Сэтона-Томпсона. Апав. будзе друкавацца ў трох нумарох.**

# ТРЭБА МЕЦЬ МОЦНЫЯ І ЧЫСТЫЯ ЗУБЫ.


Спадзяваўся на свае зубы: грыз косьці, вырываў цьвікі, аж...

Зубы вельмі важная частка чалавечага цела і адыгрываюць вельмі важную ролю ў жыцьці чалавека. Як вядома, усе часткі чалавечага цела цесна злучаны паміж сабой. Зубы таксама жывая частка чалавечага цела, і хвароба іх адклікаецца на здароўі і іншых частак цела.

Якое-ж значэньне маюць зубы? Калі-б зубы не разжоўвалі і ня крышылі яду, яна пападала-б у страўнік вялікімі кавалкамі, не змагла-б пераварыцца і, такім чынам, магла-б зьявіцца хвароба жывата. Гэта і бывае, калі зубы хворыя альбо іх зусім няма, як, напрыклад, у старых. Людзі, якія маюць у роце хворыя зубы, амаль усе маюць хваробы жывата. Акрамя гэтага, хворыя зубы прыносяць чалавеку шмат няпрыемнасьцяй сваім дрэнным пахам, заражаючы дзясны і шчокі. Калі чалавек есьць, ён павінен старацца жаваць на абодва бакі, бо толькі тыя зубы будуць моцныя, якія працуюць.

Як плуг блішчыць ад работы, так і зубы. Здаровы чалавек з малых гадоў па прывычцы жуе абодвымі бакамі, але здараецца, што забаліць зуб, і ён, заместа таго, каб ісьці палячыць яго, кідае есьці на той зуб і праз кароткі час увесь бок зубоў можа ад гэтага папсавацца.

Калі зубы цэлыя, не паломаныя, ня маюць дзірак, і правільна сядзяць у роце, яны добра разжоўваюць яду і гэтым дапамагаюць страўніку пераварваць яду. Калі-ж зубы зломаны, яда кепска разжоўваецца, страўнік не спраўляецца з сваёй работай, хварэе і перастае працаваць.

Для таго, каб зразумець, чаму і як хвараюць на страўнік, трэба ведаць, як ён пабудаваны. Зубы складаюцца з двух частак: верхняе, якую мы бачым, якая завецца каронкай, якая пакрываецца ў сваю чаргу эмальлю, якая і ахоўвае зуб ад псоты, і ніжняй, якая знаходзіцца ў костцы, яе ня відаць, гэта частка завецца коранем зуба.

Покуль эмаль цэлая—зуб здаровы, але як толькі эмаль папсуецца, пастрэскаецца, дык зуб пачынае паступова разбурацца. Калі эмаль на зубе цэлая, мы лёгка можам есьці і піць халоднае альбо гарачае, як толькі яна папсуецца, дык нэрв пачынае адчуваць як халодную, так і гарачую яду.

Хвароба зубоў заўсёды пачынаецца з маленькай шчыліны альбо псоты эмалі. Шчыліны ўтвараюцца ад таго, што чалавек неасьцярожна ўжывае то халодную, то гарачую яду. Калі, напрыклад, есьці гарачы суп і тут-жа пасьля гэтага запіць халоднай вадой, дык эмаль гэтага ня любіць, яна дае шчыліны і ад гэтага пачынаецца ўся бяда.

Як мы добра ні расьціраем і ні разжоўваем яду, аднак яна ўся цалкам ня глытаецца. Невялікія часткі яды застаюцца паміж зубоў і, калі рот не прамываць, гэта рэшта яды застаецца паміж зубоў, і праз некаторы час пачынае гніць. Ад гніеньня і разлажэньня яды атрымоў-


...пакуль не сапсаваў іх і не захварэў...

ваецца квас, які і зьяўляецца галоўнай прычынай псаваньня зубоў. І калі, такім чынам, псуецца цьвёрдая частка зуба і даходзіць да мяккай, у якой знаходзіцца нэрв, зуб пачынае балець.

Што-ж трэба рабіць, каб мець рот заўсёды чыстым і сьвежым? Дзеля гэтага прыдзецца трохі даглядаць за ротам. Як вядома, уся бяда ідзе ад вузкіх шчылін паміж зубамі, дзе застаецца яда, якая гніе і заражае зуб; вось гэтыя часткі рота і трэба вычышчаць.

Для гэтага трэба зрабіць сабе з гусінага пяра зубачыстку, кончык зубачысткі павінен быць ня гострым, а круглым, таму што гострым кончыкам можна лёгка пакалоць дзясну альбо паднябеньнем. Гэтай зубачысткай трэба чысьціць шчыліны паміж зубоў пасьля кожнай яды. Прачысьціўшы такім чынам зубы, трэба пасьля гэтага цёплай вадой некалькі раз прапаласківаць рот.

Трэба таксама памятаць, што кусаць зубамі арэхі, грызьці косьці, згінаць зубамі дрот альбо цьвікі зусім няможна, бо ад такой работы зубы могуць ня вытрымаць і зламацца.

Але прачышчаць шчыліны паміж зубоў пасьля кожнай яды гэта яшчэ ня ўсё. Праца гэта робіцца ў дзень. А ўночы, калі чалавек сьпіць, мікробы больш за ўсё робяць сваю шкодную справу.

Перад сном намачэце шчотку ў цёплай вадзе, набярэце на яе парашку ці хларадону і моцна трэце шчоткай зубы і з знадворнага і ўнутранага боку, зьверху ўніз і зьнізу ўверх. Калі чысьціце правы бок зубоў, дык бярэце шчотку ў левую руку і наадварот. Пасьля такой чысткі, трэба некалькі разоў прапаласкаць рот вадою. Пры паласканьні трэба шавяліць шчокамі так, каб вада ўсюды пападала.

Раніцою трэба зноў прачышчаць зубы зубною шчоткаю і парашком.

**М. Сандамірскі.**



Больш гэтага ня здарыцца!



## Юзічак-курэц.

Юзік меў гадоў дванаццаць.
Ніхто веры не даваў,
Што ў зубах сваіх шчарбатых
Ён папяросу ўжо смактаў.

Раз, прыгнаўшы з поля сьвіньні,
Юзік наш пабег ў гумно,
Што стаяла недалёка
Так за хатняю сьцяной.

Там набраў сабе саломы,
Папяросу закурыў...
Але раптам бацька злосны
Дзьверы насьцеж адчыніў.

Ну, чаго, курэц, тут ходзіш?
Хто цябе сюды пазваў?
І, узяўшы пугу ў рукі,
Сына прэч адсюль пагнаў:

Неўзабаве бацька бачыць...
Прэ народ, ракой бяжыць
І крычаць з ўсяе сілы:
„Архіп, гумно тваё гарыць!!!“

... Ды ці мала курэц-Юзік
Даўся ў знакі для людзей...
Але сталі заўважаці:
Нешта Юзік пахудзеў.

Хварэў доўга гэдак Юзік
За курэцкую віну.
І нарэшце лёг хлапчына
У сьмяртэльную труну.

**Я. Бокуць.**

# АПАВЯДАНЬНЕ ЗАГАДЧЫКА САЎХОЗУ.

*(Аб чым піонэры даведаліся на экскурсіі).*

Наш атрад узяў на сябе вялікі абавязак: мы парашылі ўрабляць разам з вучнямі кавалак школьнай зямлі. Але як урабляць яе, як працаваць на ёй? Працаваць так, як бацькі, і мець нікчэмны ўраджай мы, зразумела, не маглі. Нам хацелася ня толькі працаваць, але і быць добрымі гаспадарамі, працаваць так, як вучыць навука, каб ад нашай працы была карысьць, каб да нас прышлі вучыцца і нашы бацькі...

Мы парашылі правесьці экскурсію ў бліжэйшы саўхоз, азнаёміцца з тым, як працуюць у саўхозе, завязаць з імі сувязь. Мы так і зрабілі. У саўхозе мы знайшлі загадчыка Васіля Іванавіча, які з прыемнасьцю згадзіўся пазнаёміць нас з усім, што нас цікавіла. Вось што ён расказаў нам пра жыцьцё расьлін і пра тое, як трэба весьці гаспадарку, каб яна была прыбытковай для свайго гаспадара.



Паступовае прарастаньне насеньня гароху.

— Усё, што жыве на зямлі, патрабуе для сябе яду. Калі няма чаго ёсьці, дык кожная жывая істота паміpae.

Адкуль дастае сабе яду зародак зярняці, калі ён пачынае прарастаць?

Каб разабрацца ў гэтым, трэба паглядзець, што робіцца з зернем, калі яно прарастае.

Вось прарослыя ў пяску зярняты. Вырвем адно асьцярожна, каб не папсаваць малады адростак. Паглядзім, што сталася з самім зернем-насеньнем.

Яно стала мяккім, а лушпінка зьлёгку паморшчылася.

А цяпер вырвем адростак з таго зярняці, якое пасаджана раней за тое, якое мы толькі-што разглядвалі. У гэтым адростку лушпінка зярняці зусім паморшчылася: зярня аказалася ўнутры пустым. Цікава, куды-ж дзелася тое, што было ўнутры зярняці? Скажам, мы разглядалі зярня гароху, якое складаецца з двух тоўстых семядоляй, альбо зярня жыта,—якое мае адну семядолю і бялок.

— Семядолі і бялок, напэўна, пайшлі на тое, каб мог расьці адростак?—пытаўся адзін з піонэраў.

— Так,—адказаў Васіль Іванавіч.—Семядолі і бялок—гэта страва для адростка.

У глебе гэтыя семядолі і бялок асаблівым чынам распушчаюцца, таксама як цукар у вадзе. Вось тую распушчаную страву і ўбірае ў сябе малады адростак.

У зярняці, значыцца, знаходзіцца ня толькі зародак расьліны, але і страва для гэтага зародка-адростка.

І вось, калі зярня больш ня можа даваць стравы для свайго адростка, апошні пачынае шукаць гэтую страву ў зямлі. Адростак складаецца з двух частак: адна частка прабіваецца на паверхню і разрастаецца ў сьцябло з лісьцямі, а другая дае корань. Корань прабіваецца ў глыбкі ў зямлю. Яго задача—дабываць з зямлі яду і карміць сьцябло з лісьцямі і кветкамі. Цяпер зразумела, чаму зярня прарастае ўсюды, дзе ёсьць вільгаць, цяпло і паветра.

Яда для расьлінаў маецца толькі ў зямлі. З гэтай прычыны адростак будзе расьці і ператварацца ў сьцябло, у расьліну толькі ў зямлі. Але цікава, чаму адны расьліны на адной і той-жа зямлі растуць добра, а другія—дрэнна. Залежыць гэта ад колькасьці стравы ў зямлі. Калі гэткай стравы даволі, расьліна будзе расьці добра, калі не—дрэнна. Тое-ж самае бывае з кожнай жывёлай: калі яна дрэнна харчуецца, яна слабее і нарэшце зусім можа загінуць.

Асабліва патрэбна добрая страва для ўсіх жывых істотаў тады, калі яны толькі яшчэ нарадзіліся і пачынаюць жыць, толькі што набіраюцца сілы. Расьліны ў першыя дні харчуюцца тым запасам

яды, які маецца ў самым зярняці-насеньні. Тое самае і з жывёламі. Жывёла корміцца ў першыя дні малаком маткі, і гэта цягнецца да таго часу, пакуль жывёла не абмацуецца і ня зможа самастойна знаходзіць сабе і здабываць страву.

Што-ж будзе ў тым разе, калі матка будзе дрэнна карміць сваіх дзяцей? Дзеці, зразумела, будуць дрэнна расьці. Яны будуць слабымі, нядужымі. А калі яшчэ на іх нападзе якая-небудзь хвароба, ім цяжка будзе перанесьці яе, і яны ў большасьці гінуць. Дзе-ж такім дзецям набрацца сілы для самастойнага жыцьця?

Вазьмеце жменьку зярнят і зьвярнеце ўвагу на іх велічыню: адны зярняты буйнейшыя, другія — драбнейшыя. Калі параўнаць іх паміж сабою, дык атрымаем тое, што буйнейшыя зярняты ў некалькі разоў будуць цяжэйшымі за драбнейшыя. А ясна, што буйнейшыя зярняты маюць і большы запас бялкоў, больш стравы для свайго будучага адростка. Якія-ж зярняты лепш высяваць: буйныя ці дробныя?


Арха—машына для абчысткі насеньня.

— Буйныя,—у адзін голас адказалі піонэры.

Адростак з буйнага зярняці харчуецца добра і расьце борзда. Скончыцца запас яды ў маткі-зярняці, а адростак ужо будзе даволі моцным для таго, каб магчы самому здабываць страву з зямлі. Ён глыбока зможа пусьціць свой корань у зямлю, а ў глыбіні зямлі больш вільгаці і больш стравы. Здароваму адростку ня так цяжка перанесьці розныя перашкоды, як сухмень, як розныя хваробы і г. д. Зусім адваротнае зьявішча будзе з тым адростқам, які вырастае ад дробнага зярняці. Толку ад такой расьліны будзе мала: яна будзе слабай, малой і лёгкай.

Якія-ж зярняты высяваюць вашы бацькі?

Яны зусім не клапоцяцца аб тым, каб сеяць адборным зернем, а сеюць розным,—у гэткім насеньні зярнят дробных больш, чым буйных.

У нас у саўхозе зямля абсемяняецца насеньнем адборным. Вось чаму мы маем з дзесяціны жыта ня менш, як 140 пудоў, тады, як у нашых суседзяў-сялян вырастае ня больш 43 пудоў.

Піонэры захваляваліся і загаварылі:

— Цяпер-то мы ведаем, чаму ў нас ураджаі дрэнныя.

— Мы раскажам аб гэтым сваім бацьком!

— Свой школьны вучастак мы адборным насеньнем засеем!

— А як адбіраць зярняты на пасеў?

Васіль Іванавіч адказаў:

— Для гэтага маюцца сартыровачныя машыны.

І Васіль Іванавіч паказаў піонэрам, як працуе сартыровачная машына „Трыер“. Гэта машына адбірае зерня на тры сарты: буйны, дробны і сярэдні.

Васіль Іванавіч расказаў і аб тым, што такі „Трыер“ каштуе 200 руб. і што купіць яго можна толькі ўсёй вёскай. Але гэткія машыны можна знаходзіць у любым саўхозе, у любым раённым зерняачышчальным пункце.

* * *

— Зерня,—казаў далей Васіль Іванавіч,—высеянае ў зямлю, дало адростак і пачало расьці. У сонечны вясновы дзень маладая расьлінка пракапала для свайго выйсьця маленькі пласт зямлі, які ляжаў на ім, і выглянула на сьвет. З зямлі чуць прыкметна пачало вылазіць маленькае сьцябло, якое прагна пацягнулася да сьвету, да сонца. Сонца ласкава прыгравала яго, а ад гэтага патрошкі

сьцебялёк рос усё вышэй і вышэй. Неўзабаве пачалі разгортвацца маленькія лісточкі. А ў гэты час корань упарта прабіваўся ў зямлю. Ён пракапваў сабе ўсё новыя і новыя праходы, залазіў усё глыбей і глыбей, каб адтуль можна было высcаць больш яды і паслаць яе наверх расьлінцы.

Кораню непатрэбен быў сьвет. У глыбокай цемры адбывалася яго праца.

Усё ішло добра. Яды ў зямлі было даволі. Корань разрастаўся, пускаў адросткі ад сябе ў бакі, каб і адтуль можна было выкарыстаць усю страву.

Але аднаго разу корань адчуў, што стравы стала менш. Тонкія валаскі кораня прагна ўпіваліся ў зямлю, але сокаў для харчаваньня у ёй было мала.

У гэты-ж час валаскі корэня найшлі на нейкі чужы корань. Гэты корань-прыблуднік таксама прабіваў сабе дарогу ў зямлі і якраз у тым-жа месцы, дзе рос наш корань.

Корань-прыблуднік таксама прагна ўпіваўся ў зямлю валаскамі і выцягваў з яе апошні сок для свайго харчаваньня. Вось чаму і паменшала стравы для нашага кораня-тубыльца: гэту страву прышлося падзяляць папалам.

І вось у зямлі, у глыбокай цемры, распачалася барацьба. Для абодвых карэньняў не хапала яды: кожны з іх стараўся захапіць з зямлі яды як мага больш.

Барацьба была жорсткай. Хто акажацца дужэйшым у гэтай барацьбе? Хто першы аслабее ад недахвату стравы?

Корань-прыблуднік аказаўся вельмі дужым. Ён борзда разрастаўся, адросткі яго борзда перапляталі зямлю і выцягвалі з яе ўсе сокі.

І вось наш корань адчуў, што недахват яды зьменшыў яго сілы. Ён ня мог ужо больш расьці. Барацьба ў зямлі перадалася і наверх. Сьцябло расьліны пачало атрымліваць менш яды ад свайго кораня. Сьцябло зрабілася слабым, вялым і чуць трымалася, падстаўляючы пажаўцелыя лісточкі пад сонца.

Ужо ня было больш сілы ў сьцябла цягнуцца ўверх.

А тут яшчэ новая бяда. Поруч з ім выглянула з зямлі чужое, ніколькі не падобнае на яго сьцябло. Гэтае чужое сьцябло было сьвежае і здаровае. Яно борзда паднімалася ўверх і здавальнялася ўволю сонцам і цяплом.

Корань гэтага новага сьцябла аказаўся пераможнікам там, у глухой цемры зямлі. З гэтай прычыны сьцябло мела шмат яды і расло борзда. Яно перагнала свайго суседа і распусьціла шырокія лісты, якія засланілі сабою сонца для нашага ранейшага сьцябла. А бяз сонца, у цяні, расьліна пачала яшчэ больш слабець і, урэшце, зусім завяла. Лісточкі яе пажаўцелі і апусьціліся ўніз. Корань з зямлі не пасылаў для сьцябла болей стравы. Корань канчаткова занядужаў і падначаліўся свайму пераможцу.



Трыер.

Гэтак загінула расьліна. А для яго селянін шмат паклаў працы, і чакаў ад яго за сваю працу ўзнагароды.

— А чаму-ж гэта так здарылася? Адкуль-жа ўзяўся корань-прыблуднік?— градам пасыпаліся запытаньні ад піонэраў, якія з вялікаю ўвагаю выслухалі трагічную гісторыю гэтай расьліны.

— Гэта апавяданьне ня выдумка,—гаварыў Васіль Іванавіч.—Тое, што я вам расказаў, заўсёды адбываецца на нашых палёх. Нашы культурныя расьліны, якія высяваюцца зямляробамі, павінны весьці барацьбу з рознымі дзікімі расьлінамі—сарнякамі. Гэтыя расьліны растуць барджэй за нашы пасевы, карэньні іх аказваюцца дужэйшымі, больш прыстасаванымі да жыцьця. Гэтыя сарнякі могуць захапіць усё поле і зьнішчыць усе пасевы. Вось чаму з сарнякамі трэба весьці самую ўпартую барацьбу.

Калі селянін косіць хлеб, ён разам скошвае і сарнякі. Пасьля малоціць і ссыпае разам з чыстым зернем зярняты рознай дзікай травы. Гэтыя зярняты часта нагэтулькі малыя, што іх нават цяжка ўбачыць. І вось, калі селянін не прапускае сваё насеньне праз сартыроўку, ён высявае насеньне разам з насеньнем дзікай травы. Для гэтага насеньне трэба абавязкова прапускаць праз сартыроўкі.

Васіль Іванавіч паказаў яшчэ піонэрам і сеялку, якая высявае насеньне роўненька, а гэта апошняе значна спрыяе ўраджаю.

Сеялка закапвае насеньне на аднолькавую глыбіню. Барана-ж гэтага зрабіць ня можа. Пагэтаму, калі сеяць сеялкай, ураджай і ад гэтага павялічваецца на дзесяціне на 10—15 пудоў, апрача таго, рукамі куды больш высяецца, чым сеялкай.

— Вось чаму,—сказаў, нарэшце, Васіль Іванавіч, — наша дзяржава імкнецца да таго, каб увесьці ў сельскую гаспадарку ўсе патрэбныя ёй машыны, прылады, а для гэтага патрэбна аб'яднаць сялян–стварыць шмат колектываў, пасёлкаў. Адзін селянін нічога зрабіць ня можа. Калі-ж аб'яднацца цэламу гурту сялян, тады, ясна, справа пойдзе іначай.

* * *

З раніцы да вечара кіпіць у полі работа. Сохамі і баронамі шавялілі сяляне зямлю. З каробак высявалі насеньне.

А піонэры на чале з Васілём Іванавічам і настаўнікам на невялікім кавалку школьнае зямлі распачалі працу так, як яна праводзіцца ў Саўхозе.

І вось на школьным вучастку буйна разрасьліся яравыя пасевы. Тут-жа была адна і слабенькая градка. На гэтай градцы ў канцы на дошцы было напісана: „Гэта градка засеяна неабчышчаным насеньнем“.

На другой-жа градцы на такой самай дошцы было напісана: „Засеяна ачышчаным насеньнем“.

Тут рос авёс. І такі вялікі, што ніколі яшчэ ня бачылі такога сялянскія палі. Хадзілі ля вучастку сяляне, паглядвалі на градкі і задумваліся, скрабучы сабе патыліцу:

— Вось гэта дык піонэры!

Задумаліся сяляне. А ў наступную вясну і самі пачалі высяваць абчышчанае насеньне. А праз некаторы час набылі сабе свой уласны „Трыер“, набылі і сеялку.

Так піонэры памаглі сялянам перамагчы іх цемру і наладзіць сваю гаспадарку пановаму, так, як вучыць навука.

Па кніжцы **В. Гусева.** „Веснняя работа в поле“.



# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**У часе адпачынку.**—Зборнік вясёлых забаў для дзяцей, злажылі **А. Якімовіч і З. Паваротны**. Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, стар. 104.

Такіх зборнікаў для дзяцей, якія-б давалі самы рознастайны і патрэбны для той ці іншай працы матэрыял, у нас яшчэ ня было.

Толькі-што выданая кніжка „*У часе адпачынку*“ якраз і зьяўляецца тэй першай патрэбнай кніжкай, якую можна шырока выкарыстаць для правядзеньня адпачынку дзяцьмі.

У кніжцы сабраны ўвесь лепшы і даступны для кожнага трохі граматнага юнака матэрыял як для вясёлага чытаньня, так і для забаўнага штукарства. Дзесяткі фокусаў, задач, загадак, жартаў, галаваломак, гульняў,—усё гэта досыць багаты матэрыял для нашых дзяцей. Вялікая частка матэрыялу з рознымі галаваломкамі перадаецца ў форме апавяданьняў, што асабліва прыемна для юнага чытача.

У далейшым пажадана яшчэ больш пашыраць выданьне такіх каштоўных масавых зборнічкаў для дзяцей.

Кніжка „*У часе адпачынку*“ выдана досыць добра, з прыгожай вокладкай, мае шмат малюнкаў, надрукована на лепшай паперы сярэдняга памеру, каштуе нядорага (60 кап.).




Вазьмеце любую газэту, якая першай пападзецца ў вашы рукі,—і вы, бадай, у кожнай знойдзеце артыкул ці заметку пра нашае будаўніцтва.

Па ўсім Саюзе разгорнута шырокая праца па адбудоўцы нашае прамысловасьці: будуюцца гідраэлектрычныя станцыі, раз-за-разам пускаюцца ў ход фабрыкі і заводы. Усё далей і далей адыходзяць у мінулые гады разрухі і голаду, і кожны новы год узбагачае нашу краіну якой-небудзь выдатнай тэхнічнай будовай.

Нядаўна газэты паведамілі аб пачатку будоўлі Волга-Донскага каналу, які павінен будзе злучыць раку Дон з Волгай.

Наш нарыс і мае на мэце пазнаёміць чытачоў „Б. П.“ з тым, што ўяўляе сабою Волга-Донскі канал, навошта і як ён будуецца, і якую выгаду дасьць нам гэты канал.

Зірнеце на карту Савецкага Саюзу і і вы адразу заўважыце, што прырода зрабіла вялізную памылку, накіраваўшы вялікую суднаходную раку Волгу ў зачыненае з усіх бакоў Касьпійскае мора.

Волга, вялізарнейшая па сваіх разьмерах рака ў Эўропе, разам са сваімі прытокамі ахоплівае тэрыторыю ўтрая большую за Нямеччыну і на гэтай тэрыторыі жыве і гаспадарыць блізка 45 мільёнаў чалавек. У басэйне *) Волгі знаходзяцца галоўныя багацьці нашага Саюзу: у паўночнай часьці—вялізныя лясныя абшары; на ўсходзе—уральская руда; на поўдні—багатыя хлебныя палі і нафта. І ўсе гэтыя прадукты—хлеб, руда, лес—ня маюць выгаднага шляху за межы, бо Волга бяжыць ня туды, куды трэба, і ня мае выйсьця ў адчыненае мора.

А ці нельга як-небудзь выправіць гэту памылку прыроды і зрабіць так, каб судны з Волгі маглі патрапіць у адчыненае Чорнае мора? Зразумела, можна. Для гэтага трэба злучыць каналам Волгу з Донам.

Думка аб пракапаньні такога каналу ўзьнікла гадоў 400 таму назад. Яшчэ турэцкі султан Сэлім-Паша І хацеў злучыць Волгу з Донам і нават пачаліся работы, якія аднак, хутка спыніліся, бо пракапаць канал у той час, з прычыны слабае тэхнікі, было немагчыма. Пазьней пры Пётры Вялікім таксама пачыналі капаць канал, але вялікія выдаткі на вайну са швэдамі прымусілі Пётру адмовіцца ад думкі аб канале. У царскі час было таксама шмат плянаў аб канале, але ўсе яны засталіся на паперы, бо пабудове каналу вельмі перашкаджалі капіталістыя, у руках якіх знаходзіліся чыгункі. А перашкаджалі яны вось чаму: калі-б пракапалі ў той час канал, дык усе грузы з Волгі ў Чорнаморскія порты пачалі-б перавозіць не па чыгунках, а водным шляхам, што каштуе значна таней, і такім чынам зьменшыліся-б прыбыткі ўласьнікаў чыгунак, чаго яны, зразумела, не хацелі.

І толькі цяпер, з пераходам улады у рукі рабочых і сялян, ажыцьцяўляецца тое, што не маглі зрабіць ні турэцкі султан, ні былыя ўладары Расеі.

Па думцы Ўладзіміра Ільліча Леніна, Саўнарком у маі 1918 г. прыняў пастанову аб будоўлі каналу, але грамадзянская вайна не дазволіла ў той час распачаць працу.

*) Вадазбор—прастора, з якой сьцякае вада ў Волгу.

Што-ж уяўляе сабою Волга-Донскі канал? Канал будуецца ў кірунку ад хутара Кумаўскога (ля г. Калач) на Доне да г. Чырвонаармейску на р. Волзе і будзе мець у даўжыню 103 клм., а ў шырыню—64 м. Ровень Волгі ў тым месцы, дзе капаюць канал, на 40 мэтраў ніжэй за ровень Дону. Калі-б паміж гэтымі рэкамі капалі звычайны канал, дык уся вада Дону перALілася-б у Волгу, Дон кінуў-бы сваё рэчышча і каналам пашоў-бы ў Касьпійскае мора. Зразумела, карысьці з гэтага ня было-б. Каб гэтага ня трапілася, канал будуецца з шлюзамі, прычым ровень яго будзе вышэй за ровень Дону на 22 мэтры і вышэй за ровень Волгі на 70 мэтраў?

Каб забясьпечыць канал вадой, будзе пабудована вялізная станцыя, абсталёваная магутнымі машынамі, якія будуць напампоўваць ваду ў канал з Дону.

Вас, напэўна, цікавіць, як-жа судны, што ідуць з Дону ці з Волгі, будуць паднімацца ў канал на такую агромністую вышыню?

Звычайна, для пад'ёму суднаў будуюцца шлюзы—вялізныя каморы, абмежаваныя з двух бакоў дубовымі ці жалезнымі брамамі, пабудаванымі папярок каналу.

Наш**) малюнак паказвае разрэз гэткага шлюзу. У тым месцы, дзе стаіць лічба I высокі ровень вады, III—нізкі ровень, II- шлюз ці шлюзная камора. Дапусьцім, што параход ідзе з вучастка III з нізкім роўнем вады ў вучастак I, дзе ровень значна вышэй. Калі параход падыходзіць да шлюзнай брамы № 2, апошняя адчыняецца і судно ўваходзіць у камору, дзе ровень вады гэткі-ж, як і ў III вучастку. Як толькі судно ўвайшло ў камору, браму № 2 шчыльна зачыняюць і адчыняюць асобныя адтуліны, праз якія ўпускаецца вада з I-га вучастку. Павольна ўзьнімаецца ровень вады ў каморы ўсё вышэй і вышэй. Як толькі ён зраўнаецца з роўнем вады ў I-м вучастку, адчыняецца брама № 1 і параход пераходзіць у I вучастак. Такім-жа чынам, судны пераходзяць з вучастку з больш высокім роўнем вады ў вучастак з больш нізкім роўнем.

Апрача шлюзаў, для пад'ёму суднаў ужываюцца суднапад'ёмнікі. Суднапад'ёмнік адрозьніваецца ад шлюзу тым, што ў шлюзе ўзьнімаецца ці апускаецца вада і разам з ёй узьнімаецца ці апускаецца судно. У суднапад'ёмніку, судно падымаецца разам з каморай, напоўненай вадой. Гэта дае значную экономію часу, бо напаўненьне шлюзаў вадой адбываецца вельмі павольна, а пад'ём каморы цягнецца ўсяго некалькі хвілін.

Сучасныя суднапад'ёмнікі будуюцца ў выглядзе агромных камор з брамамі сьпераду і ззаду. Каморы гэтыя паднімаюцца магутнымі машынамі на сталёвых вужышчах (вяроўках), перакінутых праз блёкі*). У каморы знаходзіцца вада. Брама адчыняецца, судно ўваходзіць у камору, і яна з вадою і судном паднімаецца да роўню верхняй часьці каналу. Там брама адчыняецца і судно выходзіць у канал.

На Волга-Донскім канале для пад'ёму суднаў будзе скарыстаны адзін з апісаных намі спосабаў, але сказаць цяпер дакладна, які з іх—шлюзы ці суднапад'ёмнікі—нельга, бо гэтае пытаньне яшчэ ня вырашана і ў сучасны момант абмяркоўваецца нашымі інжынэрамі.

Праца па будоўлі каналу разьлічана на 5 гадоў. Па проэкту, пабудова каналу будзе каштаваць 70 мільёнаў рублёў.

Выдаткі вялізныя, але яны хутка выплацяцца, бо дзякуючы каналу тыя продукты, аб якіх мы казалі раней, можна будзе перавозіць за межы без перагрузкі, што значна зьменшыць кошт перавозкі і, такім чынам, кожны год будуць захоўвацца дзесяткі мільёнаў рублёў.

З ажыцьцяўленьнем Волга-Донскага каналу ўзрасьце сельская гаспадарка прыволскіх раёнаў, ажывіцца прамысловасьць і гандаль Волгі, а разам з гэтым павялічыцца экономічная моц нашага Саюзу.

**Віль.**

---

*) Прылада для лягчэйшага падняцьця цяжару.
**) Мал. глядзі на 3 стар. вокладкі.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# ДЗЕЦІ АБ ГОРКІМ.

Пісьменьнік Максім Горкі, юбілей якога будзе сьвяткавацца сёлета ў СССР, бязумоўна, займае вялікае месца і ў масе юных чытачоў.

Аб гэтым яскрава сьведчаць думкі і водгукі дзяцей аб славутым пісьменьніку, якія нашаму корэспандэнту ўдалося выявіць шляхам гутарак з асобнымі піонэрамі-чытачамі і прыхільнікамі творчасьці Горкага.

* * *

— Яшчэ летась бачыў я ў кіно-тэатры фільму „Маці", якая зрабіла на мяне глыбокае ўражаньне,—кажа піонэр атраду пры саюзе будаўнікоў Міхась Зяленскі.

Пазнаёміўшыся па фільме з жыцьцём і працай расійскіх рабочых у дарэволюцыйныя часы, іх рэволюцыйнай барацьбой супроць царскага самаўладзтва, я адчуў моцнае жаданьне пазнаёміцца з творамі Горкага і ў першую чаргу непасрэдна з аповесьцю „Маці".

З прычыны таго, што ў бібліотэцы, якая мелася ў нашым атрадзе, гэтых кніжак ня было, я зьвярнуўся ў бібліотэку пры клюбе „Чырвоны Будаўнік", дзе атрымаў „Маці" і рэкомэндацыйны сьпіс твораў М. Горкага. З таго часу я і зьяўляюся сталым чытачом пісьменьніка Горкага.

* * *

Вучань II сямігадовай школы Ўладзік Ермаловіч, ня гледзячы на свае 15 гадоў, параўнаўча ня дрэнна знаём з сучаснай расійскай літаратурай і яе найбольш выдатнымі прадстаўнікамі. Асаблівай пашанай з яго боку карыстаюцца, зноў такі, Максім Горкі і, цяпер ужо памёршы, пісьменьнік Няведаў.

Уладзік--упарты хлапец. Захацелася яму ведаць біографію Горкага, але як на тое ліха не знайшоў ніводнай кнігі з біографіяй пісьменьніка. Пераглядзеў цэлую кіпу часопісяй, уважліва сачыў за выходзячай у сьвет літаратурай і, нарэшце, знайшоў патрэбны сабе матар'ял.

Зараз Міхась дакладна раскажа вам біографію гэтага пісьменьніка.

З кніжак Горкага ён пасьпеў прачытаць наступныя: „Маці", „Дело Артамонавых", „Фома Гардеев" і шэраг дробных апавяданьняў. На грунце ўражаньняў ад гэтых кніжак, Уладзік зараз рыхтуецца напісаць самастойны рэфэрат і падаць выкладчыку гісторыі расійскай літаратуры.

* * *

— На вялікі жаль, я не пасьпела пазнаёміцца з творчасьцю Горкага больш падрабязна,—кажа піонэрка 27-га атраду Зося Станкевіч. Чытала толькі зборнік яго выбраных апавяданьняў і артыкул у аднэй з часопісяй, прысьвечаны творчасьці пісьменьніка ў зьвязку з надыходзячым яго юбілеем.

Апавяданьні Горкага, з якімі я пасьпела азнаёміцца, напісаны простай, зразумелай мовай, вызначаюцца багацьцем зьместу і дасканалай апрацоўкай яго. Асабліва спадабалася мне аповесьць „Леташні сьнег", якая малюе жыцьцё дзяцей рабочых у дарэволюцыйны час.

З прычыны гэтага я і раю ўсім піонэрам і дзецям абавязкова пазнаёміцца з творамі гэтага выдатнага пісьменьніка.

Карыстаючыся выпадкам, каб запытацца праз часопіс „Беларускі Піонэр" наступнае:—*чаму да гэтага часу няма ніводнай кніжкі Горкага, перакладзенай на беларускую мову?* Мне здаецца, што гэта зусім патрэбная рэч і ў зьвязку з юбілеем пісьменьніка і з тэй цікавасьцю да яго твораў з боку дзяцей, якая ўсё больш і больш выяўляецца за апошні час.

* * *

Максім Горкі—стары расійскі пісьменьнік, які ў сваіх шматлікіх творах адбіў жыцьцё пролетарыяту і даў шмат прыкладных узораў мастацкай творчасьці, аказаўся блізкім і зразумелым таксама і маладому падрастаючаму чытачу, аб гэтым яскрава сьведчаць думкі і водгукі саміх дзяцей.

Мы падтрымліваем прапанову піонэркі Зосі Станкевіч аб выданьні выбраных твораў М. Горкага ў перакладах на беларускую мову. За гэтую справу павінны ўзяцца тыя ўстановы, якія кіруюць выданьнем дзіцячай літаратуры ў БССР.

**Язэп.**

## Катаньні спадабаліся.

Ляднянскі атрад нядаўна наладзіў колектыўнае катаньне на саначках. Сабралі колькі можна было саначак; былі некаторыя піонэры з канькамі. На катаньне да нас прыйшло шмат і неорганізаваных дзяцей. Але дзякуючы таму, што саначак для ўсіх не хапала, шмат хто з дзяцей ня меў магчымасьці прыняць удзел.

Гэтак сама дрэнным было і тое, што ня была добра падрыхтавана для катаньня гара і што трохі перашкодзілі нашай карыснай забаве старэйшыя комсамольцы.

Гэткія катаньні мы будзем праводзіць і яшчэ: яны цікавяць усіх піонэраў і неорганізаваных дзяцей.

**Файтлін.**

## Як вы глядзіце на гэта?

„Дзінь-дзінь-дзінь“... З кляс выбягаюць вучні з шумам і крыкам. Гэта перапынак. Пыл забіваецца ў лёгкія, не дае дыхаць, але ніхто з вучняў не зьвяртае ўвагі на гэта. Аднаго разу сабралася некалькі вучняў аднэй клясы і парашылі, каб кожны з вучняў прынёс на другі дзень з дому тыя гульні, якія ён мае. Назаўтра можна было бачыць такі малюнак. Стаяць вучні каля параў, што гуляюць у шахматы, „гардэ“, доміно, шашкі. Замест шуму і крыку можна чуць такія гутаркі:

—„Вось, братка, маё ўзяло“.

Гэтак мы пачалі запаўняць свой вольны час у школе ў час перапынку.

**Міхась Кац.**

Менск, 14-ая шк.

## Бярэце прыклад.

У Цяцеранскім атрадзе Ю. П. імя Калініна на зборы 3-яга зьвяна павадыр наладзіў колектыўную чытку часопісі „Беларускі Піонэр“. Усе піонэры, а таксама і неорганізаваныя дзеці, якія прысутнічалі пры гэтым, зацікавіліся часопісьсю, сабралі 20 кап. і выпісалі „Беларускі Піонэр“ для свайго зьвяна. Таварышы, піонэры! бярэце з нас прыклад: кожнае зьвяно павінна мець сваю родную часопісь.

(Аршаншчына, м. Цяцерана).

**Машкароў.**

## Выхады ў поле.

Ня так даўно піонэрскі клюб організаваў дзіцячую экскурсію ў лес пад кіраўніцтвам настаўніка грамадазнаўства. Усе сабраліся і разам з настаўнікам пашлі ў лес, на рэчку. Там цікавіліся выглядам зімовай прыроды. Настаўнікам была праведзена гутарка. Такія экскурсіі будуць наладжвацца і ў далейшым.

**Гурэвіч.**



*Выздаравеў!*

## Цікавяцца часопісьсю.

Некаторыя піонэры нашага атраду дасюль нават і ня ведалі, што гэта за часопісь „Беларускі Піонэр“. Яны ня ведалі таму, што наш атрад ня выпісваў гэту часопісь. А цяпер, калі часопісь атрадам выпісваецца, дык няма ніводнага піонэра, які-б ня чытаў свае часопісі. Шмат калі піонэры зьбіраюцца ў школе ў гурток і голасна чыюць „Б. П.“ На гэтыя чыткі, акрамя піонэраў, прыходзяць і неорганізаваныя дзеці, якія з цікавасьцю слухаюць тое, аб чым чытаецца. Некаторыя з піонэраў чытаюць часопісь бацьком. Бацькі таксама ўважліва слухаюць, і хваляць дзяцей за тое, што выпісалі такую добрую часопісь.

**К. Пэстэль.**

## А праца ані з месца.

У м. Лагойску ёсьць 3 атрады, з іх 2 працуюць на беларускай мове, а адзін на яўрэйскай. Праца за летні час занялала. Піонэры ня прыходзяць на зборы ды заняткі зьвеньняў.

На зборах піонэры яўрэйскіх атрадаў заяўляюць:

— Нас праца не здавальняе, бо дрэнныя павадыры кіруюць працай атрадаў.

А ў Лагойскіх атрадах дык сапраўды з павадырамі справа дрэнная: за адно лета зьмянілася каля пяці павадыроў, што ні комсамолец—павадыр. Хаця піонэрскай працы ніводзін ня ведае.

Бязумоўна, гэтакая пастаноўка працы пашкодзіла росту атраду. Рост атрадаў за летні час амаль што спыніўся, зьменшылася зацікаўленасьць піонэраў, а таксама неорганізаваных дзяцей да атраду.

(Лагойскі раён, Меншчына).

**Скрыпач.**

## Газэты дапамагаюць у вучобе.

У нашай 7-годцы ў гэтым навуковым годзе значна павялічылася падпіска на розныя газэты і часопісі. Вучні сталі цікавіцца газэтамі і амаль што кожны якую-небудзь выпісвае. Так, на сьнежань м-ц гэтага году мы мелі амаль што 150 падпішчыкаў на розныя выданьні, большаю часткаю на беларускія. Мы заўсёды чакаем газэт з надзеяй даведацца аб якой-небудзь навіне і перачытваем газэты з пачатку і да канца. У старэйшых групах газэты дапамагаюць вывучэньню грамадазнаўства, а ў малодшых—дапамагаюць вучыцца чытаць.

(Любань, Слуцкага раёну).

**Б. Ш.**

## Такіх вечароў трэба больш.

Прыемна мігаюць сьветлыя вокны нашай сямёхгодкі. Навакол яе шумяць дрэвы саду, і ціха спадае з вышыні срэбны сьняжок.

Сёньня вучнёўскі вечар... У сярэдзіне будынку цёпла і чыста. Па сьценах паразьвешаны плякаты, географічныя карты і малюнкі. Вучні розных узростаў гуляюць у цікавыя і карысныя гульні. Досыць нагуляўшыся, яны праглядваюць сьветавую газэту, паказаную з дапамогаю чароўнага ліхтара. У гэтай газэце, як у люстэрцы, адбіваюцца дрэнныя бакі жыцьця школы, намаляваныя ў гумарыстычных танох.

Потым зноў гульні, дэклямацыі і сьпевы. Шкода толькі, што гэткія вечары рэдка наладжваюцца—усяго раз у два тыдні.

(Зембінская 7-годка, Барысаўскага раёну).

**Зомэрфэльд.**

## У нас не на лыжах, а на каньках.

У нашым атрадзе лыжы не скарыстоўваюцца затым, што іх мала ёсьць у мястэчку; толькі можна знайсьці у райфізгабінэце. Атрад не клапаціўся, каб набыць лыжы.

А вось калаўроты, санкі і канькі—скарыстоўваюцца. Кожную вольную хвіліну піонэры зьбіраюцца і катаюцца. Катаюцца заўсёды групамі па некалькі чалавек. Толькі адзін раз каталіся ўсім атрадам: тады было куды цікавей.

(Бярэзіна).

**Роза.**

## Больш увагі.

(*Петрыкаў*).

На сходзе піонэраў атраду № 2 было пастаўлена пытаньне аб выпісцы радыё-прыёмніка. Піонэры з радасьцю ў працягу некалькіх дзён сабралі на радыё-прыёмнік грошы. Давалі, хто колькі мог. Усе думалі: „Вось цяпер наш атрад ажыве“. Але што-ж: прышоў выпісаны радыё-прыёмнік і бескарысна ляжыць у клюбе...

Яго прысутнасьць не паляпшае працы атраду.

Чаму гэта так? Зусім проста. Няма каму ўстанавіць. А райбюро піонэраў не падумае нават аб тым, каб як найхутчэй наладзіць гэту справу. **АРС.**

## Даёш дзяткоргурток.

Калі нашай рэдколегіі трэба выпусьціць насьценгазэту, дык сябры рэдкол. ходзяць, як жабракі, ад аднаго дзяткора да другога і просяць напісаць хоць якую-небудзь стацейку. А між іншым, у нас існуе дзяткоргурток, які амаль што ніякай працы не праводзіць. Ячэйка комсамолу не дала нам кіраўніка гуртка. З намі займаецца памоцнік павадыра атраду, хлопец ня зусім знаёмы з працай.

Трэба аднавіць працу гуртка, уцягнуць у яго больш вучняў і тады можна будзе і лепш паставіць справу выпуску насьценгазэты. **Вярбовіч.**

## Часопісь—неорганізаваным.

Кожнае зьвяно ў нашым атрадзе выпісвае па некалькі экз. „Б. П.“ Па прыкладу піонэраў пачынаюць цікавіцца часопісьсю і выпісваць яе нават і неорганізаваныя дзеці.

У далейшым перад піонэрамі стаіць задача: правесьці такую працу ў сваіх атрадах, каб *кожны неорганізаваны* хлопец ці д з я ў ч ы н а, *выпісваў часопісь „Беларускі Піонэр“*. Гэта мы зробім! **В. М.**

(Чырвоная Слабада).

## Газэту складаюць актывістыя.

У нашым атрадзе выпускаецца насьценная газэта. Але ў газэту пішуць толькі некаторыя піонэры. Астатнія зусім ня пішуць. Выходзіць так: газэту складае ня ўвесь атрад, а невялічкі гурток актыўных піонэраў.

Гэта залежыць ад таго, што некаторыя піонэры думаюць, што яны дрэнна пішуць і іх заметкі ня пойдуць. Такі погляд няправільны, бо толькі пішучы ў газэту мы можам навучыцца добра пісаць допісы.

У далейшым гэту справу трэба неяк паправіць, і ў газэту павінны пісаць усе піонэры, бо ў іншым выпадку прыходзіцца адмовіцца ад выданьня насьценгазэты.

**Савулькін.**

## Сьпяць!

Пры нашым атрадзе яшчэ ў мінулыя гады выпускалася насьцен. газэта. Ня гледзячы на тое, што на загалоўку было напісана „штомесячны орган“, газэта выпускалася раз у два месяцы.

Але цяпер, дык газэта і зусім ня выходзіць. Сьпяць выдаўцы яе. Ці не пара-б ім прачнуцца!..

(м. Карма, Магілеўскай акругі).

**Караткевіч.**



*Дзеці фінляндзкіх рабочых. (Фотографія прыслана спэцыяльна для „Бел. Піонэра“ рэдакцыяй фін. часоп. „Пуналіпу“).*

# Як хто піша апавяданьні.

**[illegible]окрыўдзяцца аўтары?**

Наш літаратурны маладняк разросься досыць шырока. А што датычыцца іх твораўапавяданьняў, дык апошніх, бязумоўна, у некалькі разоў больш. Аднак, рэдкія з апавяданьняў заслугоўваюць свайго прызначэньня: рэдкія шчасьліўцы пападаюць на старонкі часопісі. І ніякія просьбы, ніякія далікатныя прыпіскі аўтараў да рэдакцыі аб тым, каб зьмясьціць іх творы, нічога не памагаюць.

„Чаму-ж гэта так? Няўжо вінавата рэдакцыя: нядбайна адносіцца да юнакоўаўтараў, ня хоча выяўляць новых, сьвежых іменьняў у сваёй часопісі, ці што іншае?“—задае сабе гэткае пытаньне шмат хто з шэрагаў літаратурнага маладняка. Альбо хіба каго можа задаволіць просты „сухі“ і адбіваючы ахвоту да пісаньня адказ у паштовай скрынцы ці ў знарочыстай маленькай пісульцы—„Ня пойдзе. Слаба напісана“... Гэта самае безнадзейнае і крыўднае для дапішчыка. Тлумачыцца гэта перш за ўсё, вядома, адсутнасьцю месца і магчымасьці кожнаму дакладна расказаць пра тое, што твор яго мае такія і гэткія заганы і як іх можна ўхіліцца.

У гэтым невялікім артыкуле мы зробім спробу падсумаваць вынікі працы нашых юных апавядальнікаў і, адначасна, адказаць на пытаньне: хто як піша і чаму не зьмяшчае рэдакцыя ўсіх апавяданьняў.

**Для чаго пішуць апавяданьні?**

Гэткае пытаньне заўсёды ставіць перад сабой пісьменьнік, калі пачынае пісаць. Рэч, зразумела, ідзе аб такім пісьменьніку, які хоча сапраўды напісаць нешта каштоўнае, нешта такое, аб чым яшчэ ня ведае той, хто будзе чытаць яго апавяданьне. І вось, калі пісьменьнік, сапраўды пераканаты, што выбраная ім тэма зацікавіць чытача і што сам ён здолее прыгожа і мастацкі перадаць словамі свае думкі, дзеяньні гэрояў і г. д.—тады ён толькі пачынае пісаць. Калі-ж пісьменьнік будзе на ўсё гэта глядзець абы як, нічога талковага з яго пісаніны ня будзе.

Значыцца, адказаць на пастаўленае пытаньне можна толькі так: пішуць і друкуюць апавяданьні таму, каб паведаміць чытача аб нечым сапраўды для яго новым, невядомым і цікавым. Гэтае новае і цікавае заключаецца, папершае, у зьмесьце апавяданьня, у тым выбары фактаў і падзей, якія разгортвае перад намі пісьменьнік і, падругое, у форме апавяданьня: у тым, якім парадкам гэта адбывалася, і ў тым, якія мастацкія прыёмы ўжыў аўтар.

**У чым каштоўнасьць твору?**

Літаратурны твор (у даным выпадку апавяданьне) можа быць каштоўным, значыцца, толькі тады, калі і зьмест яго і прыгожасьць перадачы гэтага зьместу захапляюць чытача, абагачаюць яго розум новымі ведамі ці то з галіны прыроды (напр., частка апав. Я. Маўра), ці то з жыцьця людзей наогул, як, напр., апавяданьне „Ножык“, „Не пашанцавала“ і інш., дзе аўтары імкнуцца паказаць псыхолёгію думкі, волю, пачуцьці, звычаі, норавы, імкненьні дзяцей.

Да гэтага яшчэ трэба дабавіць, што аўтар, які бярэцца дасканала і цікава пісаць аб жыцьці і змаганьні людзей, аб жыцьці і характэрных асаблівасьцях прыроды і інш., павінен сам надзвычайна добра ведаць, вывучыць тое, аб чым піша. Іначай будзе кепска, іначай аўтар будзе пісаць па чутках, будзе няўдала і залішне штучна фантазіраваць. Хоць, праўда, кожнае апавяданьне мае пэўную долюа ўтарскай фантазіі, вымыслу. Аднак, гэтая фантазія дапушчаецца ў меру. Яна служыць для таго, каб больш жыва, больш наглядней для чытача сфармаваць тыя падзеі, якія аўтар наглядаў у жыцьці або аб якіх даведваўся з іншых крыніц (начытанасьць, вучонасьць і г. д).

Возьмем для прыкладу апавяданьне „Лапаронак Алеса“. Бязумоўна, аўтар сам ня жыў з гэтым лапаронкам, ён ня пасьвіў з ім аленяў Насыра, ня езьдзіў разам па сумных, цёмных тундрах. Аўтару даволі было быць знаёмым з жыцьцём лапарскага народу наогул, з яго звычаямі, з яго імкненьнямі і жаданьнямі.

І вось свае веды аб жыцьці лапароў аўтар занатаваў якраз у ўспамянутым апавяданьні. Ён сабраў гэтыя веды і згрупаваў вакол аднаго галоўнага гэроя Алеса. Усё гэта перадаецца шчыра, праўдзіва, прыгожа. Калі чытаем яго апавя-

даньне, здаецца, што ты сам разам з аўтарам і яго галоўнымі гэроямі перажываеш усё напісанае. Гэта ня тое, што прачытаць дзе-небудзь у географіі артыкул пра лапарскі народ, аб якім усьледжа можам і забыцца.

**Як і аб чым пішуць нашы аўтары.** Нашы-ж юныя аўтары далёка ня прымаюць пад увагу ўсяго таго, аб чым мы вышэй упаміналі. У большасьці нашых апавядальнікаў справа з пісанінай вырашаецца проста: ёсьць час і ахвота— пішы, хоць-бы што і хоць-бы аб чым.

З такім настроем і ў гэткім дусе напісаны апавяданьні амаль усіх таварышоў. Як яскравы прыклад успамянем апавяданьне Р. Верашчагі. Ён на працягу ўсяго сшытка апавядае аб тым, што сяляне ў часе вайны схаваліся ў лес і ўсё разважаюць аб тым, што вось-вось можа прыдуць палякі. Разважалі, разважалі, дый адракліся ад такой нікчэмнай „працы“. На гэтым апавяданьне і спыняецца. Шмат хто піша пра тое, „што жыў-быў хлопчык пастушок, яму захацелася стаць піонэрам, ён падаў заяву і яго прынялі ў атрад“.

Ну і што-ж такога?—вядома што пастушка прымуць у атрад, вядома ўсякаму і тое, што дзеці імкнуцца ў атрад. Што-ж новага ў гэтым апавяданьні знайшоў чытач?

Шмат хто ў апавяданьнях выцягвае напаверх час грамадзянскай вайны. Але, на вялікі жаль, нічога новага ня ўносяць, нічога цікавага ў свае апавяданьні ня ўводзяць: тут заўсёды упамінаюцца партызаны, якія забіваюць палякаў, ці пана маёнтніка. Гэткія апавяданьні даўно ўжо напісаны нашымі старэйшымі пісьменьнікамі (Зарэцкім, Бядуляй, Коласам і інш.).

Бытавыя тэмы таксама перадаюцца ў большасьці аднабакова. Характэрны прыклад: піонэр Дзьмітрачэнка ў сваім апавяданьні „у водпуск“ закранае момант сувязі гарадзкіх піонэраў з вясковымі. Піонэр з гораду едзе ў вёску ў водпуск. У яго надзвычайна шырокія пляны: „усё зрабіць, нічога не забыць“. Ну, і што-ж вы думаеце? Адзіная праца яго—гэта тое, што ён прывёз з сабой некалькі часопісяй для вясковых піонэраў... І больш анічагусенькі. Каму гэта цікава чытаць пра такую сумную гісторыю? Ці мала хто аб чым думае. Гэроя трэба заставаць і знаходзіць у часе дзеяньня, у часе жывой і карыснай працы яго.

Такую слаўную традыцыю папярэдняга таварыша працягваюць і яшчэ некаторыя. Піонэр Есьман жыва і цікава перадае той момант, калі адзін бедны вясковы хлопчык пападае ў рабфак. Там ён навучыўся і варочаецца назад у вёску граматным і сьвядомым з мэтай зажыць у вёсцы пановаму і самому, і дапамагчы зрабіць гэта сваім вяскоўцам. І толькі. Самае цікавае (вынікі вучобы і жаданьняў гэроя) „мышы зьелі“...

Вось, прыблізна, тое поле, на якім дзейнічаюць нашы аўтары з сваімі тэмамі*).

Праўда, з гэтага ёсьць і выключэньні. Сьвядома ці не, аднак шмат хто пабудаваў свае апавяданьні і цікава: дадзена сьвежая тэма, прывабнае злучэньне падзей і г. д. Да ліку такіх аўтараў трэба аднесьці Касача, Вайцянкова, Трацьцякова-Таўкачова, Царанкова, Капілевіча і яшчэ некаторых. Частка з гэтых апавяданьняў, лепшая па апрацоўцы з боку формы, будзе надрукавана ў часопісі**).

**Прычына ўсіх прычын.** Але ўсё гэта яшчэ было-б паўбяды, каб не адзін вялізарны клін, які расчэплівае апавяданьні на дзьве далёкія адна ад другой палавінкі. Гэтым клінам ня будзе што іншае, як граматнасьць, сьвядомасьць нашага літаратурнага маладняка.

З гісторыі літаратуры мы ведаем досыць шмат прыкладаў, калі пісьменьнік бярэ для сваёй працы зусім на першы погляд нязначную тэму і з гэтай тэмы сілаю свайго мастацкага таленту робіць нязвычайна цікавыя творы.

Гэтым прыкладам мы хочам зьвярнуць увагу нашых юных аўтараў, што творчыя сродкі, якімі аздабляецца апавяданьне, адыгрываюць ня меншую ролю, чым самая тэма і зьмест апавяданьня.

**А. Я.**

(Працяг будзе).

*) Тут, зразумела, маецца на ўвазе некалькі, дзесяткаў апавяданьняў, якія надасланы за апошняе паўгодзьдзе.

**) Пералічэньне апавяданьняў, якія ня будуць зьмешчаны, будзе зроблена ў канцы артыкулу.




Рысунак да артыкулу „Волга-Дон“.

Цана 12 кап.




*Два самавары.*

На стале стаяць два аднолькавыя самавары, у якія ўваходзіць аднолькавая колькасьць вады. Вугольля ў іх трэба насыпаць пароўну. У абодвых поўна вады.

Адзіная розьніца самавараў, што адзін з іх падобны на шар, другі на валец (цыліндр).

Адначасова астынуць абодва самавары, ці не? Калі не, дык які астыне раней?



*Чаму круціцца.*

(Фізычны вопыт).

Выражце правільны квадрацік з самай тонкай папяроснай паперы, перахініце яго ў 4 разы. На перасячэньні загібу адзначыцца сярэдняя кропка—ямінка. Палажэце найдзеную гэту сярэднюю кропку на гостры кончык іголкі, уторкнутай у корак. Квадрацік ваш будзе круціцца ня толькі ад самага слабенькага ветрыка, але нават і тады, калі вы будзеце трымаць ля яго руку. (гл. малюнак). Разгадка ў тым, што рука награе паветра над паперкай, і гэта лёгкае паветра, падымаючыся ўверх, круціць квадрацік. Папрабуйце прарабіць гэты вопыт!

*Шклянкі і нажы.*

Тры шклянкі на стале расстаўлены так, што адлегласьць паміж імі большая, чым даўжыня кожнага з нажоў. Трэба пабудаваць з трох нажоў масты, якія будуць злучаць усе тры шклянкі.



Пры гэтым ня можна ссоўваць з месца шклянак і карыстацца якімі-небудзь пабочнымі прыладамі, акрамя гэтых трох шклянак і трох нажоў.

Ці можна гэта зрабіць?

**Загадкавы малюнак.**



*Знайдзеце тут рабочага, які залёг спаць.*

---

*) Разьвязаньне задач і прозьвішчы разьвязаўшых будуць зьмешчаны ў 7 нумары.

1-ая друкарня БДВ. Заказ № 1643. У ліку 3.600 экз. Галоўлітбел № 787.